**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.48, 16.59, 9.11;
Віцебск — 7.42, 16.45, 9.03;
Магілёў — 7.37, 16.49, 9.12;
Гомель — 7.30, 16.51, 9.21;
Гродна — 9.02, 17.15, 9.13;
Брэст — 7.58, 17.21, 9.23.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 3 лютага.

**ІМЯНІНЫ:**
Ксеніі, Герасіма;
Дароты, Багдана.

# ЗВЯЗДА

6 ЛЮТАГА 1992 г.
чацвер, № 26 (21804)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

## РОЗГАЛАС

## РАЗМОВА АБЯЦАЕ БЫЦЬ ВОСТРАЙ

Адразу пасля вяртання з курортнага гарадка Давос, што ў Швейцарыі, дзе праходзіла сустрэча лідэраў краін СНД з кіраўнікамі заходнееўрапейскіх краін, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч 7 лютага сустрэнецца з прафсаюзным актывам рэспублікі. Паводле папярэдніх даных, у сустрэчы прымуць удзел каля 360 чалавек.

Размова абяцае быць вострай, бо, як вядома, прафсаюзы ў апошні час выказваюць у адрас парламента і ўрада шмат папрокаў і крытычных заўваг наконт пагаршэння жыцця людзей, выкліканага лібералізацыяй цэн. Прафсаюзы патрабуюць ад урада прыняць неадкладныя меры па сацыяльнай абароне той часткі насельніцтва, што апынулася ў найбольш цяжкім становішчы.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

## ПРАЦЭС ПАЙШОЎ

Нягледзячы на адсутнасць Закона аб прыватызацыі, працэс тым не менш, як кажуць, пайшоў: у прыватнасці, летась змянілі форму ўласнасці 19 прадпрыемстваў прамысловасці, 33 прадпрыемствы ў службе быту, камунальнай сістэме і г. д.

Гэтыя і іншыя лічбы, факты былі названы ўчора на навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай праблемам прыватызацыі і разгляду адпаведных законаў па гэтаму пытанню, якія рыхтуюцца да сакавіцкай сессіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі беларускія парламентарыі, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, вучоныя, кіраўнікі прадпрыемстваў. З дакладамі выступілі намеснік старшыні Камітэта па дзяржмаёмасці І. Лях, доктар эканамічных навук, старшыня Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Беларусі М. Куняўскі і іншыя.

Абмеркаванне праблем прыватызацыі, а таксама паступіўшых прапаноў працягваецца сёння ў больш вузкім коле ў адной з камісій ВС. Можна спадзявацца, што такога роду скрупулёзная грамадская экспертыза рыхтуемых законапраектаў будзе на карысць усім.

Больш падрабязна аб рабоце канферэнцыі і тых вывадах, прапановах, якія на ёй прагучалі, мы раскажам пазней.

## ШТО АБМЯРКУЮЦЬ КІРАЎНІКІ ЎРАДАЎ?

**5 лютага ў Мінску адбылося пасяджэнне рабочай групы для арганізацыйна-тэхнічнай падрыхтоўкі і правядзення пасяджэнняў Савета кіраўнікоў дзяржаў і Савета кіраўнікоў урадаў Садружнасці. Яго вёў каардынатар рабочай групы Іван Каратчэня.**

Першая гадзіна пайшла на своеасаблівую размінку — знаёмства, бо гэта была дэбютная сустрэча. І ў хуткім часе паўнамоцныя прадстаўнікі 9 суверэнных дзяржаў — па невядомых прычынах у Мінск не прыбылі пасланцы Азербайджана і Украіны, — прыйшлі да згоды па праекту парадку для маючай адбыцца 8 лютага ў Маскве сустрэчы кіраўнікоў урадаў. Рабочая група, улічваючы ступень падрыхтоўкі матэрыялаў, прапанавала кіраўнікам кабінетаў разгледзець 9 пытанняў:

1. Аб забеспячэнні і фінансаванні Узброеных Сіл СНД у першым квартале 1992 года;
2. Аб цэнтралізаваных закупках па імпарту прадуктаў харчавання, сельскагаспадарчай сыравіны, матэрыялаў і сродкаў аховы раслін за кошт зарубежных крэдытаў;
3. Рэгуляванне эканамічных узаемаадносін дзяржаў па пастаўках прадукцыі;
4. Аб дыферэнцыраваным падыходзе да ўзроўню рэнтабельнасці (у межах 50 працэнтаў);
5. Аб каардынацыі міждзяржаўных адносін у галіне электраэнергетыкі дзяржаў — членаў Садружнасці;
6. Міждзяржаўнае пагадненне па экалагічных праблемах, якія патрабуюць неадкладных узгодненых дзеянняў;
7. Аб арганізацыі работы гідраметэаралагічнай службы ў Садружнасці;
8. Аб фінансаванні расходаў па ўтрыманню рабочай групы;
9. Аб прапанове М. А. Пугіна аб статусе акцыянернага таварыства «Аўтасельгасмашхолдынг».

Зразумела, рашаючае слова пры фарміраванні парадку дня застанецца за кіраўнікамі ўрадаў суверэнных дзяржаў.

Каменціруючы першае пасяджэнне, Іван Каратчэня сказаў:

— У нас многа работы. Мы добра разумеем— эфектыўнасць сустрэчы кіраўнікоў урадаў часткова будзе залежаць і ад таго, наколькі дакладна падрыхтаваны дакументы, наколькі зладжана стануць дзейнічаць рабочыя службы.

**Уладзімір ГЛОД, кар. БЕЛТА.**

ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ НАВІНЫ

## «ХАЧУ ВАМ СКАЗАЦЬ, ШТО МІНСК ЗНАХОДЗІЦЦА НЕПАДАЛЁК АД ОСЛА»

Гэтыя словы — першае, што сказаў міністр замежных спраў Нарвегіі пан Торвалд Сталтэнберг пазаўчора ў час надзвычай кароткай гутаркі адразу пасля падпісання пратакола аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Каралеўствам Нарвегія.

Дзве гадзіны лёту з Осла ў Мінск — гэта зусім побач, на думку высокага замежнага госця. Пан Сталтэнберг падзяліўся такім назіраннем: нярэдка пералёт над тэрыторыяй Нарвегіі ў яго займае тры з палавінай гадзіны. А таму вельмі добра, што Нарвегія будзе развіваць адносіны з краінай, да якой можна так хутка дабрацца, — падкрэсліў міністр.

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі У. Сянько выказаў вялікае задавальненне з нагоды падпісання пратакола, адзначыў неабходнасць паглыблення супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі.

Такім чынам, акрамя таго, колькі часу займае пералёт з Осла ў Мінск і агульных слоў аб важнасці моманту падпісання пратакола, нашым чытачам, на жаль, няма чаго паведаміць. Журналістам жа хацелася спытаць аб тым, хто будзе паслом Нарвегіі ў Беларусі, калі мяркуецца адкрыць дыпламатычнае прадстаўніцтва, як ставяцца дзелавыя колы Нарвегіі да эканамічнага супрацоўніцтва з нашай рэспублікай і г. д., але дзе там... Начальнік пратакольнага аддзела МЗС Беларусі В. Лазерка бесцырымонна абарваў чарговае пытанне журналіста пану Сталтэнбергу і спыніў гэтую пяцімінутную гутарку.

Зразумела, наша маладая беларуская дыпламатыя маладой незалежнай дзяржавы робіць першыя крокі, не ўсё пакуль добра атрымліваецца ў супрацоўнікаў МЗС. Напрыклад, у рабоце з рэспубліканскай прэсай, на якую яны час ад часу скардзяцца за няпоўнае асвятленне іх работы, міжнародных кантактаў і сувязей міністэрства. Але ж трэба і апарату МЗС вучыцца тактоўна і ўмела працаваць з прэсай, каб патрэбная інфармацыя даходзіла да чытачоў. Калі меркаваць па арганізацыі сустрэчы з міністрам Нарвегіі, то, відаць, МЗС больш цікавіў сам элемент прысутнасці прэсы як нейкай дэкарацыі, чым тое, што яна паведаміць. Бо, каб напісаць 2 радкі аб гэтым пратаколе, журналістам неабавязкова прысутнічаць на цырымоніі яго падпісання.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА, урадавы карэспандэнт «Звязды».**

## Дастойны працяг адносін з Аўстрыяй

Аўстрыя—бадай, адна з тых нямногіх заходнееўрапейскіх краін, з якой у Беларусі яшчэ ў т. зв. застойныя часы ўсталяваліся добрыя адносіны і ўзаемавыгадныя эканамічныя кантакты. Дастаткова нагадаць узвядзенне ў Жлобіне буйнога металургічнага завода з удзелам аўстрыйскіх фірм і спецыялістаў. Актыўна развіваліся сувязі ў апошнія дзесяцігоддзі і па лініі народнай дыпламатыі. Беларусь вельмі ўдзячная народу Аўстрыі за значную гуманітарную дапамогу і падтрымку.

Дастойным працягам «народнай» дыпламатыі стала падпісанае ўчора пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Аўстрыяй. Для ўдзелу ў цырымоніі падпісання пагаднення ў Мінск прыехаў генеральны дырэктар па палітычных пытаннях МЗС Аўстрыі пан Эрнст Сухарыпа.

У сталіцу Беларусі ў складзе ўрадавай дэлегацыі таксама прыехалі супрацоўнікі розных міністэрстваў Аўстрыі — фінансаў, па эканамічных пытаннях, па дзяржсектару і транспарту, па навуцы і навуковых даследаваннях. Яны сустрэліся са спецыялістамі Дзяржэканомплана, іншых ведамстваў рэспублікі. У ходзе гутарак былі намечаны шляхі далейшага развіцця супрацоўніцтва.

**Л. ТУГАРЫН.**

## Падпісана камюніке

Лі Ін Гю — намеснік міністра замежных спраў КНДР і У. Сянько — намеснік міністра замежных спраў Беларусі падпісалі сумеснае камюніке аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і КНДР.

**Л. ПЯТРОВІЧ.**

ПАВЕДАМЛЯЕ СЛУЖБА ІНФАРМАЦЫІ ДЗЯРЖЭКАНОМПЛАНА РБ

## ЦІ БУДЗЕ ЛЯКАРСТВАЎ БОЛЬШ?

**Адносная стабільнасць эканамічнага становішча ў рэспубліцы на фоне прыкметнага пагаршэння эканамічнай сітуацыі ў краінах — членах СНД прыцягвае ўвагу многіх заходніх бізнесменаў.**

**Нядаўна ў намесніка старшыні Дзяржэканомплана В. Кандраценкі адбылася сустрэча з Клаўсам Холдам — дырэктарам вядомай нямецкай фармацэўтычнай фірмы «Берлін Хемі АГ». Фірма спецыялізуецца на вытворчасці неўралагічных, гастраэнтэралагічных, антыінфекцыйных і сардэчна-сасудзістых сродкаў.**

**Нямецкія бізнесмены прапанавалі супрацоўніцтва ў галіне вытворчасці медпрэпаратаў і медтэхнікі. У выніку дасягнутых дагаворанасцей у лютым у Мінск прыедзе група нямецкіх спецыялістаў па пытаннях размяшчэння неабходных вытворчых магутнасцей.**

## ПАКІДАЕМ САБЕ

Урадам рэспублікі прымаюцца меры па забеспячэнню насельніцтва прадуктамі харчавання і таварамі народнага спажывання на ўзроўні не ніжэй, чым гэта было ў 1991 годзе. Робіцца гэта за кошт павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і змяншэння вывазу за межы рэспублікі.

У прыватнасці, у параўнанні з планам 1991 года ў 1992 годзе за межы рэспублікі будзе зменшаны вываз малака на 26,2 працэнта і мяса — на 9,5 працэнта. Намечана значна зменшыць вываз тавараў лёгкай прамысловасці, у тым ліку баваўняных і шарсцяных тканін, трыкатажных вырабаў і абутку скуранога.

Паляпшэнню забеспячэння таварамі будуць спрыяць таксама меры, прымаемыя ўрадам па ахове спажывецкага рынку рэспублікі.

## ЦАНА НА ГАРЭЛКУ І МАСЛА — СТАБІЛЬНАЯ

**У сувязі з чуткамі аб павышэнні цэн на лікёра-гарэлачныя вырабы і масла ва ўпраўленні цэн Дзяржэканомплана паведамілі наступнае: цэны на лікёра-гарэлачныя вырабы і масла зацверджаны ў студзені гэтага года, і цяпер пытанне аб іх змяненні не разглядаецца ні ва ўрадзе, ні ва ўпраўленні цэн. Не паступала такіх прапаноў і з боку вытворцаў гэтай прадукцыі, тым больш — гандлю.**

## ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПОРАХ...

УШАЧЫ. **(В. Караленка).** У раёне прайшоў конкурс «Настаўнік года», у якім згадзіліся прыняць удзел 6 канкурсантаў. Настаўнікі вытрымалі не адно выпрабаванне: «адкрыты» ўрок у «чужым» класе, анкетаванне, конкурс педагагічных крэда і расказ пра свае педагагічныя захапленні.

«Настаўнікам года» стала настаўніца з Глыбоцкай СШ Г. Кляпец. Добра, што ў нас яшчэ хапае імпэту праводзіць такія конкурсы!

## ГАЗЕТА «ЗРАБІЛА КРОК» У ГІСТОРЫЮ




Гэтаму нумару «Советской Белоруссии» без перабольшання суджана стаць бібліяграфічнай рэдкасцю. Нават навечна ўпісаная ў аналы гісторыі ленінская «Іскра» ніколі не выходзіла тыражом усяго ў адзін экземпляр, як гэта здарылася з адной з самых папулярных газет рэспублікі 5 лютага. Замест 645 тысяч аддрукаваны ўсяго адзін экземпляр, які ўрачыста змешчаны пад шкло фірменнага стэнда на фасадзе беларускага Дома друку: «Чытайце і не зайздросце!».

Прычына банальная—няма паперы. Шматлікія звароты журналісцкага калектыву ў Савет Міністраў, які з'яўляецца сузаснавальнікам газеты, вынікаў пакуль што не далі. Дарэчы, у «гістарычным» нумары на першай паласе завярстаны рэпартаж аб знаходжанні кіраўніка ўрада рэспублікі В. Кебіча ў Брэсцкай вобласці. На жаль, чытачы так і не даведаюцца, аб чым ён гаварыў з працоўнымі, якія добрыя надзеі ўсяляў у іх знявераныя душы.

А ці ёсць надзея ў газеты і яе чытачоў?

Застаецца дадаць, што ў «Белорусской нивы» такія ж туманныя перспектывы, як і ў многіх іншых газет рэспублікі таксама.

**(Кар. БЕЛТА).**

## НА ГАРЫЗОНЦЕ — МАСАВАЕ БЕСПРАЦОЎЕ

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. На якім заводзе, фабрыцы ці аб'яднанні не пабываеш сёння, усюды адчуваеш незадаволенасць людзей: не хапае сыравіны і матэрыялаў, малыя заробкі, вытворчасць трасе. Вось прыклады.**

На самым буйным прамысловым прадпрыемстве вобласці — ВА «Гомсельмаш», дзе працуюць звыш 30 тысяч чалавек, аб'ёмы вытворчасці ў студзені, паводле папярэдніх даных, скарочаны ледзь не напалавіну. Не хапае металу рознага профілю, труб, дзесяткаў іншых відаў матэрыялаў, на якія нават не заключаны дагаворы. І вось сумны вынік: зараз тут вырашаецца пытанне, на які час ісці калектыву ў вымушаны працяглы адпачынак.

На тлушчкамбінаце заклапочаны тым, што толькі на 30—40 працэнтаў забяспечаны яго магутнасці. Расія недапастаўляе кальцыніраваную соду і сінтэтычныя мыйныя сродкі, Украіна — алей, Узбекістан — баваўняны алей. А гэта азначае, што Беларусь недаатрымае вялікую колькасць маргарыну, тлушчаў, мыла.

Дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы Гомеля, Мазыра і Рэчыцы як ніколі адчуваюць дэфіцыт лесу, які паступае з Сыктыўкара, Іркуцка і Урала. Фабрыка «Палесдрук» правяла вялікае скарачэнне штатаў і рыхтуецца да новага з-за недахвату паперы. Завод «Цэнтраліт» у студзені на некалькі дзён спыняў асноўную вытворчасць. Большасць ІТР цэлы тыдзень правялі ў вымушаным адпачынку. Каб выжыць, вагонарамонтны завод пачаў асвойваць выпуск мэблі.

Пералік падобных крызісных сітуацый у прамысловасці вобласці можна працягваць і далей. Да чаго яны прывядуць? Вось прагноз абласнога ўпраўлення па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва. Сёлета чакаецца з'яўленне 15 тысяч беспрацоўных (летась было 88 чалавек).

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## А жыццё адно...



**«Няма нічога тайнага, што не стала б яўным», —гэтую біблейскую мудрасць, напэўна, зусім забылі 19-гадовыя П. і К., якія яшчэ 5 ліпеня мінулага года ўкралі з прыватнага гаража па 1-му Радыятарнаму завулку матацыкл «Ява-350».**

**Увесь гэты час мінская міліцыя вяла настойлівы пошук і нарэшце ўсё ж выйшла на след зламыснікаў. Абодва змешчаны ў ІЧУ, матацыкл (на жаль, у некалькі разукамплектаваным выглядзе) вернуты гаспадару.**

**Грабежнікаў чакае суд і справядлівае пакаранне.**

## «КНЯЖЫ» КАЛЯНДАР

З дванаццацю князямі Вялікага княства Літоўскага пазнаёміцца тыя, хто набудзе каляровы плакат-каляндар на 1992 год, які выпусціла народнае прадпрыемства «Альберцін» са Слонімшчыны.

Пад выявамі князёў — гады іхняй дзейнасці, а ў сярэдзіне плаката размешчана карта Вялікага княства Літоўскага XIII—XV стагоддзяў. На плакаце ёсць нацыянальны герб «Пагоня», бела-чырвона-белая стужка і каляндар на 12 месяцаў.

Плакат выдадзены тыражом 15 тысяч экземпляраў.

Да сказанага варта дадаць, што каляндар аформлены гомельскім мастаком Рыгорам Жуком, аўтар тэксту — краязнаўца Сяргей Чыгрын.

**Пятро ЖЭБРАК, БелаПАН.**

СТОП-ФАКТ

## СЛАБАНЕРВОВЫХ У МІНСКУ НЯМА! ЁСЦЬ ДАВЕРЛІВЫЯ

**Цэлы тыдзень сталіцу Беларусі (і СНД) трэсла ад афіш эстрадна-цыркавога прадстаўлення «Баль Сатаны». Шоў-атракцыён СССР (ці СНД) і амерыканская фірма «Інтэрглоб» абяцалі супер-атракцыён жахаў і страхоццяў, «шок» ад персанажаў вядомых жудасных кінастужак, якія павінны былі пакінуць незабыўныя ўражанні ў душах мінчан і гасцей горада.**

На афішы нават было папярэджанне — **«слабанервовым глядзець не рэкамендуецца».**

Узбуджаныя апошняй фразай, тысячы аматараў жахаў рынуліся ў цырк. І абамлелі. Але не ад жудаснага відовішча, а ад той непрыкрытай халтуры, якой «парадавалі» даверлівых беларусаў заезджыя маскоўскія гастралёры. Спачатку публіку «шакіравалі» даўгавалосыя юнакі з музычных груп «Тэлемост» і «Краіна цудаў» непераборлівымі хітамі тыпу «Гэй, спявай-гуляй, галыцьба».

А ў перапынку паміж імі вядомы (?) сатырык Уладзімір Шантыр прымусіў пачырванець нават дарослых сваімі пахабнымі анекдотамі. Усё гэта доўжылася крыху больш за гадзіну. Потым зайграла «жудасная» музыка з лямантамі і стогнамі, і на арэну вынеслі труну. У труне, як вы ўжо здагадаліся, ляжала пачвара (дакладней, мужчына ў блазнерскім адзенні з маскай героя фільма жахаў). Гэты персанаж разам з трыма такімі ж прыбранымі «пудзіламі» пачаў бегаць па радах гледачоў, літаральна па каленях публікі, чапаць дзяцей і жанчын, голасна лямантаваць, шукаючы «звычайную» дзяўчыну (якая аказалася, канешне, «падсадной качкай»). Вывалачы гэтую дзяўчыну на арэну і зняць з яе світэр аказалася справай некалькіх хвілін. Прадэманстраваўшы верхнюю частку жаночых прывабнасцей, «страшыдлы» павялі «ахвяру» за кулісы (напэўна, каб насмактацца крыві). Увесь «шок» працягваўся ўсяго 23 хвіліны і адбываўся пад шчыры смех і расчараванне публікі. Нават удаў, які вісеў на плячах аднаго са «страхоццяў», ніяк не рэагаваў на музыку і мітусню.

Дарэчы, перад пачаткам прадстаўлення яго арганізатар і вядучы Аляксей Кісялёў гучна аб'явіў: «Пасля нашага шоу вы не зможаце спаць два тыдні. Вам будзе страшна». Сапраўды, я і да гэтай пары не магу заснуць. Але не ад страху, а ад той лухты, якой пачаставалі ў цырку. Ды і, шчыра кажучы, восем рублёў шкада. У нас жа ў краіне ёсць шмат месц, дзе можна атрымаць сапраўдны шок ад жахаў. І прытым бясплатна!

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## АДНЫМ ДЭФІЦЫТАМ МЕНШ?

**БРЭСТ. (Ю. Фёдарава). Брэсцкі электрамеханічны канцэрн — электроннае прадпрыемства. Але апроч асноўнай прадукцыі тут наладжваецца шырокі выпуск тавараў народнага спажывання. Тых жа прасаў, напрыклад. Яны ў электроннага канцэрна, як сцвярджаюць знаўцы, атрымліваюцца не горш сусветнага ўзроўню. Не трэба ў гэтай навіне шукаць іроніі: для таго, каб зарабіць ва ўмовах рыначнай эканомікі, — усе задумкі добрыя. Тым больш што прасы зараз у дэфіцыце.**



— А дзе ж твая скрыпка!

Мал. Яўгена ЦАРКОВА.

# Пытанняў больш, чым адказаў

**ГРОДНА. «Мне можна задаць тысячу пытанняў, чаму не хапае таго ці іншага. На вялікі жаль, на ўсё я адказаць не магу. Як не магу і паабяцаць, што ў бліжэйшы час мы будзем жыць лепш. Скажу толькі, што калі будзем разважлівымі, цярплівымі, дык, можа, ў бліжэйшы час не будзем жыць горш».**

**З такіх слоў пачаў учора Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч сваё выступленне на сустрэчы з кіраўнікамі выканкомаў і прамысловых прадпрыемстваў Гродзеншчыны. Вось якія галоўныя праблемы закраналіся на гэтай сустрэчы.**

### АБ САДРУЖНАСЦІ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ

— Я выступаў, — заявіў прэм'ер-міністр, — супраць прыёму Арменіі і Азербайджана ў Садружнасць, паколькі яна павінна азначаць дружбу паміж дзяржавамі, а не вайну. І тым не менш большасцю і па дамаганню Ельцына гэтыя рэспублікі былі прыняты.

— Мы вельмі спадзяваліся, — працягваў далей В. Кебіч, — што Садружнасць будзе працаваць, бо гэта магутная арганізацыя, якая нейкім чынам замяніць былы Савецкі Саюз. Але тут жа пачаліся буйныя канфлікты паміж Украінай і Расіяй. Нават не паміж народамі гэтых дзяржаў, а паміж двума лідэрамі. Вазьміце заяву Краўчука аб тым, што мы ўсё зробім для таго, каб паміж украінскім і рускім народамі не пралілася кроў. Ну, што можа азначаць такая заява палітычнага лідэра? Да свядомасці народаў даводзіцца думка, што такое можа адбыцца. А гэтага ж дапусціць нельга.

Перад гэтай сустрэчай В. Кебіч наведаў Гродзенскі завод аўтаагрэгатаў, і інфармацыя, якую ён там атрымаў, яго вельмі засмуціла. Аказваецца, нягледзячы на тое, што Ельцын толькі што падпісаў з Беларуссю пагадненне, фактычна адмяняўшае яго ўказ аб забароне адгрузкі тавараў за межы Расіі, тым не менш абмежаванні існуюць. Восьмага лютага збіраюцца лідэры дзяржаў, кіраўнікі ўрадаў усіх дзяржаў Садружнасці. В. Кебіч паабяцаў вельмі жорстка паставіць там пытанне аб тым, што, калі падобныя абмежаванні будуць распаўсюджвацца на Беларусь, нам нічога іншага не застанецца, як спыніць адгрузку тавараў у Расію.

### АБ ПАДАТКАХ І ЦЭНАХ

— Пры фарміраванні падатковай палітыкі, — адзначыў прэм'ер-міністр, — мы пайшлі па такім жа шляху, як і іншыя рэспублікі былога Саюза. Ва ўсіх існуе падатак на прыбытак, на дабаўленую вартасць, але не ва ўсіх ёсць «чарнобыльскі» падатак. Калі гаварыць аб Чарнобылі, дык нам сёлета дапамагла толькі Расія. Яна выдзеліла 6 з 17 мільярдаў рублёў, якія нам неабходны ў гэтым годзе для ліквідацыі вынікаў аварыі. Астатняе — за кошт чарнобыльскага падатку. Але тут, на думку В. Кебіча, адбываецца парадокс. У рэспубліцы пабудавана жыллё для перасяленцаў у незабруджаных зонах, але дзіўна, што людзі з Гомельшчыны і Магілёўшчыны туды не едуць. Чаму? Ды таму, што ў сябе яны атрымліваюць двайную зарплату плюс разавыя выплаты за пражыванне ў зонах ад 1 да 5 кюры. Як лічыць В. Кебіч, трэба або выязджаць, або не атрымліваць усіх гэтых ільгот. Бо гэтымі выплатамі мы ўсклалі на сябе вялікі цяжар адказнасці і «прывязалі» людзей да пражывання ў забруджаных раёнах.

— Пры фарміраванні падаткаў, — працягваў ён далей,— мы зыходзілі з таго, што цэны на нафту, газ будуць расці ў 3—4 разы, на гатовую прадукцыю — у два. Аднак усе бачаць, што ёсць прадукцыя, цэны на якую ўзраслі ў сто разоў. Таму мы ўсклалі на плечы прадпрыемстваў велізарны падатковы цяжар. Аднак заяўляю афіцыяльна, што па выніках першага квартала года мы вернемся да падатковай сістэмы, каб гэты цяжар зменшыць.

В. Кебіч таксама праінфармаваў прысутных аб тым, што, магчыма, 8 лютага на сустрэчы кіраўнікоў урадаў краін Садружнасці будзе вырашана пытанне аб абмежаванні прыбыткаў прадпрыемстваў, каб манапалісты не дыктавалі нам дзікія цэны. На гэтай сустрэчы будзе пастаўлена таксама пытанне аб тым, каб усе краіны Садружнасці знізілі падатак на дабаўленую вартасць. Адносна ўласных грошай прэм'ер-міністр зазначыў, што мы будзем гатовы іх увесці, калі гэта зробяць сумежныя з намі дзяржавы.

### АБ ПАЛІТЫЧНАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

— Цяпер група партый, — адзначыў на сустрэчы В. Кебіч, — паставіла пытанне аб даверы Вярхоўнаму Савету. Калі пройдзе рэферэндум, а гэты давер аказаны не будзе, значыць, адбудуцца новыя выбары, і новы парламент будзе фарміраваць новы ўрад. Я не трымаюся за пасаду. Аднак палохае апатыя насельніцтва. У Мінску сёння не выбраны 11 дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Па 3—4 разы праводзіліся выбары, і прыходзіла толькі 17—20 працэнтаў выбаршчыкаў. Здавалася б, няхай любая партыя сёння вылучае любога кандыдата. Але ж не... Я баюся, што мы не зможам сфарміраваць новы парламент, і тады ўвогуле можа наступіць безуладдзе.

Закраналіся на сустрэчы і многія іншыя праблемы. В. Кебіч пабываў таксама ў некаторых працоўных калектывах Гродзеншчыны.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# Беларускае нацыянальнае Адраджэнне

## Аналіз паняцця

ТЭРМІН «НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ» — ключавое паняцце беларусазнаўства, ва ўсякім выпадку з часоў газеты «Наша ніва», якая была своеасаблівым грамадскім інстытутам беларускай культуры ў 1906 — 1915 гадах. Але цяпер узнікла метадалагічная праблема размежавання двух паняццяў, якія тэрміналагічна супадаюць: **1. АДРАДЖЭННЕ як эпоха ў развіцці культуры еўрапейскага рэгіёна ў пераходны перыяд ад Сярэдневякоўя да Новага часу. 2. НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ як заканамернасць у гістарычным развіцці народаў і пэўных рэгіёнаў, якая выяўляецца ў паскораным руху эканамічных, сацыяльна-палітычных і культурных працэсаў да больш высокіх форм грамадскага быцця і нацыянальнай свядомасці пасля працяглых перыядаў застою альбо ўпадку.**

Ні адно з гэтых паняццяў не «пакрывае» сабою другога і не ўключае яго поўнасцю ў якасці сваёй падсістэмы. У пераходны перыяд ад Сярэдневякоўя да Новага часу гуманістычнае Адраджэнне ў дачыненні да нацыянальнага Адраджэння выступае як «цэлае» адносна сваёй «часткі», нацыянальнае Адраджэнне, якое можа паўтарацца ў пэўным гістарычным рытме, уключае ў сябе Адраджэнне гуманістычнае як свой першы этап.

Гістарычны вопыт беларускага, ды і іншых славянскіх народаў засведчыў, што за ўпадкам ці застоем этнічнай і нацыянальнай культуры ў спрыяльных гістарычных умовах наступае яе паскоранае развіццё, якое і ёсць крытэрый нацыянальнага Адраджэння. Гэтыя «зорныя часы» грамадскай і культурна-творчай актыўнасці, паскоранага засваення антычных традыцый і сусветнага культурнага вопыту справядліва завуцца эпохамі нацыянальнага Адраджэння. Яно звычайна пачынаецца з абвяшчэння роднай мовы найвялікшай каштоўнасцю і святыняй народа. Родная мова ўяўляецца той «жывой вадой», якая вяртае да жыцця і праграміруе іншыя галіны нацыянальнай культуры.

Такім чынам, нацыянальнае Адраджэнне — гэта не культурнае абасабленне, яно ўзнікае як самавыяўленне ўнутраных духоўных патэнцый этнасу. Тыя ж вонкавыя штуршкі, што «правакуюць» і стымулююць Адраджэнне, узнікаюць на скрыжаваннях блізкіх (у нашым выпадку славянскіх) культур у выніку іх канструктыўнага ўзаемадзеяння. І вось якраз тут вельмі важна захоўваць меру суадносін паміж уласна нацыянальнай, этнічнай асновай культуры, з аднаго боку, і іншанацыянальнымі ўплывамі на яе — з другога боку. Пазітыўнае іншанацыянальнае ўздзеянне на культуру нацыі рэалізуецца паміж двума крайнімі, крытычнымі пунктамі: за межамі першага з іх — недастатковасць канструктыўных іншанацыянальных уплываў, што вядзе да застою ці нават заняпаду ізаляванай нацыянальнай культуры; за межамі другога крытычнага пункта — такі лішак іншанацыянальных уплываў, які ў рэшце рэшт вядзе да разбурэння нацыянальнай культуры. Вобразна кажучы, нацыянальная культура можа быць падарвана не толькі рэпрэсіўнымі мерамі іншанацыянальнай дзяржавы, але і моцнымі «сяброўскімі абдымкамі», як гэта адбылося з беларускай у Расійскай імперыі і ў СССР. Гарманічнае, канструктыўнае ўзаемадзеянне генетычна блізкіх культур (напрыклад, беларускай і рускай, беларускай і польскай) магчыма толькі тады, калі паміж імі захоўваецца пэўная дыстанцыя, падобная да той, якая існуе паміж высокаразвітымі культурамі еўрапейскіх нацый.

Гістарычныя тыпы беларускага Адраджэння, перыядычныя ўздымы і спады нацыянальнай культуры пацвярджаюць гэтую думку.

Пэўныя «адраджэнскія» рысы характэрны для старабеларускай культуры XI—XII стагоддзяў (росквіт Полацкага і Тураўска-Пінскага княстваў, высокі ўзровень дойлідства, пісьменнасці, прыкладнога і выяўленчага мастацтваў, асветніцкая дзейнасць Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага).

Наступная эпоха, якая ахоплівала каля трохсот гадоў (XIII — XV стагоддзі), — пакуль што недастаткова вывучана. Тады завяршалася станаўленне беларускай народнасці, старабеларускай мовы, этнічных, стыхійна-народных форм культуры. Адбывалася як быццам бы вяртанне яе да першапачатковай прастаты, аднак не ў форме рэгрэсіўнага, «зваротнага» руху. Гэта быў складаны сінтэз — калі да славяна-візантыйскіх традыцый далучаліся новыя для гэтага рэгіёна еўрапейскія творчыя імпульсы. Самабытны ўсходнеславянскі тып сярэдневяковай культуры завяршаў свой цыкл развіцця, яго духоўны набытак стаў асновай для ўзгадавання старабеларускай культуры пераходнага перыяду ад Сярэдневякоўя да Новага часу (XVI — XVII стагоддзі).

ГІСТАРЫЧНЫ ЦЫКЛ нашага рэнесанснага Адраджэння пачаўся ў 1517 годзе працай «вучонага мужа Францыска Скарыны са слаўнага града Полацка» ў Празе, а потым — у Вільні. А закончыўся ён а другой палове XVII стагоддзя літаратурна-асветніцкай місіяй рыфматворцы-іераманаха Сімяона Полацкага ў Маскве.

Паміж дзвюма сіметрычна суаднесенымі эпохамі духоўнага ўздыму народа — гуманістычным Адраджэннем XVI стагоддзя і нацыянальным Адраджэннем другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя — амаль двухсотгадовы перыяд заняпаду, часам «паўпадпольнага», неафіцыяльнага развіцця беларускай культуры, літаратуры і літаратурнай мовы. Гэта была пераходная эпоха ад культуры беларускай народнасці, якая яшчэ не паспела аформіцца ў класічную нацыю, да ўласна нацыянальнай, самабытнай культуры беларусаў — новай у Еўропе нацыі, якая амаль да апошняй чвэрці нашага стагоддзя заставалася нацыяй-падчаркай, не прызнанай (альбо прызнанай умоўна, з «агаворкамі») не толькі Расіяй і Польшчай, якія працягвалі прад'яўляць на Беларусь свае міфічнае «гістарычнае» права, але і заходнееўрапейскімі дзяржавамі. Тыповымі дзеячамі культуры Беларусі гэтага «застойнага» перыяду былі пісьменнікі «на скрыжаваннях славянскіх традыцый». Ужо Сымон Будны і Сімяон Полацкі — гэта пісьменнікі «на сумежжы дзвюх культур»: першы — беларускай і польскай, другі — беларускай і расійскай.

Парадокс гісторыі нашай культуры вось у чым: тая славутая «адсталасць», «забітасць», «неадукаванасць», «бескультурнасць» карэнных беларусаў, пераважна сялянства, гарадскога і мясцовага рамесніцкага люду, пра што любілі паразважаць польскія і расейскія «краёвыя» інтэлігенты, публіцысты і падарожнікі ў XVIII — XIX стагоддзях, якраз дазволіла захаваць генетычнае «ядро» самабытнай народнай культуры, якое пазней стала асновай нацыянальна-культурнага Адраджэння. Гэтае ядро — этнаграфічная культура — была выключана са сферы афіцыяльнага функцыяніравання і праз гэтую сваю ізаляванасць зберагла сябе ад дэнацыяналізацыі, растварэння ў афіцыяльным моры польскай і расейскай культуры. Пад магутны прэс паланізацыі і русіфікацыі падпадалі толькі «вяршкі» культуры, яе афіцыяльная, функцыянальная частка — школа, друк, некаторыя прафесіянальныя віды і жанры мастацтва, сферы дзяржаўна-грамадскага кіравання — усё тое, з чаго фактычна была «выключана» асноўная частка працоўнага народа.

БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ ажыло праз чвэрць стагоддзя пасля падзелу Рэчы Паспалітай паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй (1772—1795 гг.), працягвалася каля стагоддзя (20-я гады XIX — 20-я гады XX ст.) і прайшло тры этапы станаўлення нацыянальнай самасвядомасці, барацьбы за духоўна-культурнае і грамадска-палітычнае самавызначэнне народа: 20-я — пачатак 60-х гадоў XIX ст. (да падаўлення паўстання 1863 г.); канец XIX ст. — 1920 г. (да Рыжскага «мірнага» дагавора); 20-я гады XX ст. (так званая «беларусізацыя» ў СССР). Чарговыя хвалі ўздыму гэтага руху ў неспрыяльныя перыяды змяніліся яго спадам, часовым зацішшам, што дазваляе гаварыць пра адносную самастойнасць кожнага з этапаў, бо яны адрозніваліся не толькі сваімі мэтамі і вынікамі, але і тымі грамадскімі сіламі і духоўнымі імпульсамі, якія падзялілі гэты рух.

Першы этап пачаўся як літаратурнае асветніцтва, якое ўзнікла ў рэгіёне ўплыву Віленскага імператарскага універсітэта.

Гэты ранні этап нацыянальнага Адраджэння можна назваць рамантычным, бо яго заснавальнікі і прадаўжальнікі (Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Рамуальд Падбярэзскі і інш.) марылі пра аднаўленне «страчанага ідэала» гістарычна пройдзенай грамадска-палітычнай рэальнасці — Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага. Аднак іх суб'ектыўныя намеры і абектыўныя вынікі іх дзейнасці, як гэта звычайна бывае ў рамантыкаў, далёка не заўсёды супадалі. Бо гістарычнай задачай народаў падзеленай паміж суседнімі дзяржавамі Рэчы Паспалітай тады было стварэнне нацыянальных дзяржаў. Галоўнай перашкодай на шляху гэтага руху аказалася палітыка Расійскай імперыі, што імкнулася стаць вялікай дзяржавай унітарнага тыпу, а гэта значыць, бачыла ў руху за нацыянальнае самавызначэнне «сепаратызм» і падаўляла яго ўсімі магчымымі сродкамі.

Падаўленнем паўстання К. Каліноўскага (1864) закончыўся першы этап «новаеўрапейскага» нацыянальнага Адраджэння і з творчасці Ф. Багушэвіча (90-я гады XIX ст.) пачалася другая хваля гэтага адраджэнскага руху — пераважна мірнага, аб'ектыўна нацэленага на выхаванне нацыянальнай самасвядомасці народа, развіццё яго мовы, літаратуры, іншых відаў мастацтва, грамадскай думкі, на стварэнне незалежнай ад каланіяльных улад палітычнай і сацыяльна-культурнай інфраструктуры — аматарскіх суполак і партый, нацыянальнага друку, наблізжэнне школы і царквы да традыцый нацыянальнай культуры. Своеасаблівая «прэлюдыя» да гэтай «сімфоніі» беларускага Адраджэння ёсць творчасць Ф. Багушэвіча, якая была ў гісторыі «маладой Беларусі» жывым ланцужком, што аб'яднаў традыцыі Скарыны, першых адраджэнцаў 20—60-х гадоў XIX ст. і эпоху «Нашай нівы», калі ствараласся беларуская літаратурная класіка.

Доказам таго, што нашае Адраджэнне далёка не закончылася, з'яўляецца сёння сутыкненне двух палярных працэсаў — масавай дэнацыяналізацыі (русіфікацыі) на ніжэйшых узроўнях быцця і культуры і рэнацыяналізацыі — вяртання «блудных» сыноў (і дачок) да Бацькаўшчыны, роднае мовы і культуры — на вышэйшых элітарных узроўнях. Пра тое, што цяперашняя дэнацыяналізацыя Беларусі — бесперспектыўная і тупіковая тэндэнцыя, сведчыць духоўна-культурная немач дэнацыяналізаванай большасці «сярэдніх» слаёў грамадства — інтэлігенцыі і чыноўніцтва. Мы бадай што не памылімся, калі скажам, што за апошняе стагоддзе гэтая колькасная большасць нічога істотнага не дабавіла ні да беларускай, ні да расійскай культуры — мовы, навукі, мастацтва, іншых галін рускай духоўнай творчасці. Распад былой унітарнай дзяржавы паволі і няўхільна звужае сацыяльна-палітычную базу русіфікацыі, якая раней планамерна праводзілася пануючымі грамадска-палітычнымі структурамі саюзнага цэнтра і яго мясцовай агентурай, рыхтуе глебу да новага, глабальнага Адраджэння нацыі.

**Уладзімір КОНАН,**
**доктар філасофскіх навук.**





## Музей беларускай міліцыі

ГЭТА ВЕЛЬМІ НЕЗВЫЧАЙНЫ МУЗЕЙ. Тут у адным пакоі сустрэліся рэчы, якія ніколі не знаходзіліся побач, а калі, нарэшце, здаралася такое — гучалі стрэлы, лілася кроў, шчоўкалі наручнікі. Тут можна ўбачыць партрэты першых беларускіх міліцыянераў і фотадакументы аб злачынствах банд, баявы ордэн загінуўшага сяржанта і кулі, якія абарвалі яго жыццё, спецтэхніку аператыўных груп і самаробную зброю сённяшніх гангстэраў.

ГЭТА — МУЗЕЙ БЕЛАРУСКАЙ МІЛІЦЫІ. Знаходзіцца ён у Мінску, займае адзін паверх невялікага будынка і чамусьці не вельмі рэкламуецца. А дарэмна! Экспазіцыя лепш за іншыя кінафільмы і раманы пераконвае: мая міліцыя мяне беражэ.



**НА ЗДЫМКАХ:** новыя матэрыялы з рассакрэчаных архіваў аглядаюць дырэктар музея **Г. ПАЎЛЮКОВА** і **Т. МІХАЙЛАВА**; прыгавор па справе І. Марозава, які ў 1922 годзе за крадзеж трох дошак быў прыгавораны да прымусовых работ; зброя — рэчавыя доказы злачынства.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.



# Падаткам тавары не заменіш

### Што робіцца і што неабходна зрабіць, каб прадпрымальніцтва ў Савецкім раёне г. Мінска стала больш шырокім і эфектыўным

ВІДАЦЬ, КОЖНЫ З НАС, народных дэпутатаў, быў некалькі здзіўлены, калі ўбачыў гэтую імправізаваную выставу. На ёй былі прадстаўлены разнастайныя тавары — ад звычайных бялізнавых прышчэпак і дзіцячых лялек да добрых куртак і шыкоўных жаночых боцікаў коштам больш за тысячу рублёў. Але арганізавалі і разгарнулі такі таварны вернісаж не дзеля нейкага там сюрпрызу ці продажу (хоць і не без гэтага), а галоўным чынам дзеля таго, каб паказаць, чым займаюцца, якую канкрэтна прадукцыю вырабляюць і рэалізуюць кааператывы, малыя прадпрыемствы, асобныя прадпрымальнікі. І на тое была важкая падстава, бо адным з першых пунктаў у парадку дня чарговай сесіі райсавета значылася: «Аб развіцці прадпрымальніцкай дзейнасці ў раёне».

Што і казаць, пытанне актуальнае, важнае і даволі няпростае. Прытым узнікла яно не на пустым месцы. Як вядома, глыбокія палітычныя і сацыяльна - эканамічныя перамены ў рэспубліцы, укараненне рыначных адносін выклікалі фарміраванне шматукладнай эканомікі, з'яўленне новых метадаў гаспадарання. Перш-наперш такіх, як арэнда, кааперацыя, індывідуальная працоўная дзейнасць. Усе мы добра памятаем, як бурна пачаў развівацца кааператыўны рух. Безумоўна, ён прынёс нямала станоўчага, але ў той жа час на яго рахунку і шмат негатыўнага, нават шкоднага. Натуральна, не ўсе гэтыя фарміраванні вытрымалі праверку часам і жыццём. Калі, скажам, у перыяд максімальнага іх росквіту ў раёне было зарэгістравана 300 кааператываў, то зараз засталося толькі 240, у якіх занята 6.700 чалавек.

Можна доўга пералічваць, чым яны займаюцца. Як адзначыла ў дакладзе намеснік старшыні выканкома І. Шуляхоўская, 30 кааператываў вырабляюць тавары народнага спажывання (ТНС): абутак, адзенне, фурнітуру, мэблю, аўтамотазапчасткі, гаспадарчыя і іншыя прылады; 40 — аказваюць насельніцтву разнастайныя бытпаслугі і 70 — спецыялізуюцца на рамонтных і будаўнічых работах, выпуску будматэрыялаў.

Як бачым, спектар дзейнасці шырокі і даволі шматгранны. Адпаведна і аб'ём вытворчасці прадукцыі таксама значны. Напрыклад, кааператыў «Мінск-АБС» летась выдаў ТНС больш чым на 7 мільёнаў рублёў, што складае амаль гадавую праграму іх вытворчасці на такіх прадпрыемствах, як «Прамсувязь», «Ударнік», МПВА імя Я. Коласа. Сёлета ж ён плануе вырабіць гэтых тавараў на суму амаль удвая большую.

У кааператываў «Дары зямлі» і «Крок» іншы напрамак дзейнасці — нарыхтоўка і рэалізацыя сельгаспрадукцыі. Скажам, першы з іх толькі ў нашым раёне адкрыў 20 кіёскаў, і яго прыбытак, які падлягаў падаткаабкладанню, летась склаў 350 тысяч рублёў.

Варта сказаць, што прадпрымальніцтва атрымала «другое дыханне» пасля таго, як былі прыняты адпаведныя заканадаўчыя акты, перш за ўсё Закон «Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь». За апошнія паўтара года ў раёне зарэгістраваны 4 акцыянерныя таварыствы, 350 таварыстваў з абмежаванай адказнасцю, 400 малых прадпрыемстваў. Больш за ўсё МП створана дзяржаўнымі прадпрыемствамі (арганізацыямі) і прыватнымі асобамі, а таксама так званых сямейных.

Зразумела, па маштабнасці і размаху дзейнасці прыярытэт тут пакуль за тымі фарміраваннямі, заснавальнікамі якіх выступілі дзяржпрадпрыемствы. Напрыклад, НВА «Спектр» аб'яднала 15 МП, большасць якіх ушчыльную займаецца распрацоўкай і вытворчасцю разнастайных спажывецкіх тавараў. МП «Прокус» (заснавальнік — завод «Ударнік») завяршае будаўніцтва перапрацоўчага цэха, у якім плануе сёлета вырабіць і рэалізаваць мясапрадуктаў на мільён рублёў. Фірма «Тэрмес» узводзіць асфальтабетонны завод. Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Дарбуд-сэрвіс» пракладвае дарогі і за год выканала работ на 8 мільёнаў рублёў.

Добра гэта? Безумоўна. Толькі ад рэгістрацыі і перарэгістрацыі новых фарміраванняў у бюджэт раёна за мінулы год паступіла 1,8 мільёна рублёў. А падатак на прыбытак ад прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара яшчэ больш папоўніў бедную раённую казну — ён склаў 16,5 мільёна рублёў. А гэта амаль 20 працэнтаў да агульнага аб'ёму падаткаў на прыбытак з усіх прадпрыемстваў і арганізацый. Гэтыя лічбы маглі б быць і больш значнымі. Аднак асноўная колькасць МП створана на працягу года, і плацяжы іх, у адпаведнасці з заканадаўствам, аказаліся мінімальнымі, а некаторыя нават мелі льготы. На жаль, не ўсе прадпрымальнікі ў згодзе з заканадаўствам. Раённая падатковая інспекцыя правяла 116 праверак, і па іх выніках у бюджэт вернута ў выглядзе плацяжоў і штрафаў звыш 12 мільёнаў рублёў. Як высветлілася, кожная другая з правераных арганізацый парушала падатковае заканадаўства, правілы вядзення бухгалтарскага ўліку, плацёжную дысцыпліну. Вядома, гэта непарадак. І вінаватыя (а іх дзесяткі) заслужана пакараны рублём.

Але давайце ўсё ж прыгадаем, якая асноўная задача прадпрымальніцкай дзейнасці? Яна перш-наперш павінна быць накіравана і выкарыстана для непасрэднага, канкрэтнага вырашэння актуальных пытанняў і вострых праблем раёна, рэалізацыі важнейшых сацыяльных праграм — харчовай, жыллёвай, вытворчасці ТНС, аказання паслуг насельніцтву і інш. Але ні ў якім разе не для таго, каб з іх атрымліваць падатак, спаганяць штрафы і такім чынам латаць дзіравы бюджэт.

Практыка краін з устойлівымі рыначнымі адносінамі сведчыць: эканоміка пачынае дзейнічаць нармальна, калі ствараецца неабходная канкурэнцыя паміж прадпрымальнікамі — адна арганізацыйна - структурная адзінка на 100 чалавек насельніцтва. Значыць, у раёне павінна быць як мінімум 1.000 такіх юрыдычных суб'ектаў. А да такой прапорцыі тут яшчэ ой як далёка.

І правільна гаварыў на сесіі старшыня пастаяннай планава-бюджэтнай камісіі М. Цэдрык аб тым, што прадпрымальнікі, запрошаныя на яе апошняе пасяджэнне, выказалі нямала слушных прапаноў, а заадно і папрокаў. Апошнія зводзяцца да таго, што гэтым людзям з боку райвыканкома, райсавета і дэпутатаў патрэбна пастаянная падтрымка і канкрэтная дапамога. І ў выдзяленні месца для размяшчэння сваёй «установы», і ў разумным укладзе сродкаў, і ў атрыманні льгот на першых кроках, каб дзелавы чалавек змог замацавацца і трывала стаць на ногі. Неабходны і цэнтр фірменнага гандлю, хоць гэта не такое простае пытанне.

— Лічу, што да прадастаўлення льгот варта адносіцца ўважліва, — сказала народны дэпутат Т. Бяляева. — Тыя кааператывы, у прыватнасці «Дары прыроды», якія маюць мільённыя прыбыткі, іх трэба пазбавіць. А навічкам абавязкова неабходна дапамагаць.

Слушная заўвага. Калі ў 1990 годзе такімі льготнымі стымуламі карысталіся 20 МП, летась — 7, то на сённяшні дзень пакуль няма ніводнага.

— Я, як прадпрымальнік, — зазначыў старшыня кааператыва «Верас», народны дэпутат С. Качаргін, — таксама за тое, каб прыярытэт ва ўсім быў за вытворчымі прадпрыемствамі, а не за рознымі біржамі, канторамі, якія нічога не вырабляюць.

Поўнасцю згодзен з такой пастаноўкай пытання. Ні для кога не сакрэт, што сёння знайсці нейкі прытулак таму ж кааператыву — праблема з праблем. У раёне прадпрыемствам недзяржаўнага сектара выдзелена нежылых памяшканняў агульнай плошчай 3,5 тысячы квадратных метраў. Дык вось, заўважце, з іх 2,3 тысячы займаюць фарміраванні, якія не зарэгістраваны ў Савецкім раёне. Аналіз спіса «пасяленцаў» наводзіць на сумны роздум. Атрымліваецца даволі дзіўная арыфметыка: з агульнай іх колькасці (57) — 10 «чужых» і 14 сваіх — гэта розныя адміністрацыйныя ўстановы (канторы). Затое фарміраванняў чыста вытворчага характару не набіраецца і дзесятка. Значыць, гэта не парадак і яго неабходна выпраўляць: адміністратары нас таварамі не заваляць.

Каб колькасць прадпрымальнікаў значна павялічылася і ў іх з'явілася спрыяльнае для канкурэнцыі асяроддзе, неабходна правесці раздзяржаўленне і дэманапалізацыю дзяржаўнай уласнасці. Перш за ўсё ў сферы бытавога абслугоўвання, гандлю, грамадскага харчавання. Работа ў гэтым кірунку ідзе, але вельмі ж ужо марудна, з аглядкай. Бар'ераў і рагатак на яе шляху больш чым дастаткова, а магчымасці раённага звяна ў такой важнай справе вельмі абмежаваныя. Гэта ж факт, што ўсе апошнія нарматыўныя акты Мінгарвыканкома прадугледжваюць абсалютныя правы яго аддзелаў і службаў у такіх пытаннях. Нават рэгістрацыю статутаў аб'ектаў камунальнай уласнасці, якія змянілі арганізацыйна-прававую форму гаспадарання, Мінгарвыканком пакінуў за сабой.

Вось чаму на сесіі райсавета прыняты зварот да народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь аб хутчэйшым прыняцці Закона «Аб прыватызацыі».

**Іван БРАЛКА,**
**народны дэпутат Савецкага раённага Савета народных дэпутатаў г. Мінска,**
**кар. «Звязды».**

НА ПАЛІТЫЧНЫМ НЕБАСХІЛЕ

# *Аляксандр ФЯДУТА:* «АД СВАЁЙ ГІСТОРЫІ НЕ АДМАЎЛЯЕМСЯ...»

**Неяк ціха і непрыкметна ў палітычным жыцці рэспублікі адбылася, на наш погляд, немалаважная падзея — XXX нечарговы з'езд ЛКСМ Беларусі. Калісьці шуму вакол такой падзеі было многа, адводзіліся цэлыя газетныя палосы, на саміх жа з'ездах панавалі спакой і абыякавасць. Летась на пачатку снежня ў маладзёжным міжнародным цэнтры «Юнацтва» пад Мінскам усё было інакш. Дух вастрыні «баталій» паміж дэлегатамі з'езда, якія прадстаўлялі розныя плыні ў маладзёжным руху, перадаць на словах цяжка. Якія ж вынікі такой дыскусіі? Асноўны — гэта тое, што ЛКСМБ перастаў існаваць як флагман беларускай моладзі, нарадзілася новая арганізацыя — Саюз моладзі Беларусі, у які ўжо ўвайшлі ці збіраюцца ў хуткім часе гэта зрабіць многія іншыя маладзёжныя арганізацыі. Першым сакратаром новага Саюза абраны Аляксандр Фядута, які да гэтага працаваў сакратаром ЦК ЛКСМБ. Прайшоў ужо час, улегліся страсці, і сёння можна спакойна разабрацца з тым, што было, і з тым, што намячаецца...**

**— Такім чынам, Аляксандр, СМБ у адпаведнасці з законам стаў пераемнікам ЛКСМБ...**

— Пачакай, хто сказаў такое? Неабходнасці ў аб'яўленні пераемніка на з'ездзе не было. З юрыдычнага пункту гледжання арганізацыя (я маю на ўвазе ЛКСМБ) не знішчалася, а ўступіла ў паласу рэарганізацыі. Адбылася не простая змена назвы, а самае звычайнае прывядзенне яе ў адпаведнасць з рэальным становішчам спраў у саюзе і з рэальнай яго дзейнасцю.

**— Ну, а як жа традыцыі? Слаўныя рэвалюцыйныя, баявыя і працоўныя традыцыі камсамола, якімі ён так ганарыўся?! Адбылася пераацэнка каштоўнасцей, ці, наадварот, мы можам хоць тут сказаць аб пераемнасці?**

— Грэшна адмаўляцца ад сваёй гісторыі. Якая б яна ні была, наша гісторыя, — яна наша. І гэтым усё сказана. Мне не сорамна, што да мяне пасаду першага сакратара займалі такія людзі, як Платон Галавач, Кірыла Мазураў, Пётр Машэраў. Так, у нас не ўсё так светла, як хацелася б. Але што ні кажыце, нам ёсць чым ганарыцца, нават калі браць апошнія гады.

Што ж датычыць таго, аб чым, я думаю, ты ўжо падрыхтаваў пытанне, — аб традыцыях ідэалагічных, то тут можна сказаць наступнае: так, мы на з'ездзе адмовіліся ад адной, асобна ўзятай ідэалогіі, адмовіліся таму, што сёння гэта прывяло б да рэзкага звужэння членскай базы, таму што наперадзе рынак, а, зыходзячы з нашага пункту гледжання, драбніць сілы з прычыны ідэалагічных прынцыпаў у такі складаны час амаральна. Сёння нас надта многае аб'ядноўвае, для таго каб раздзяляцца. Але ж аднадумства мы адкінулі яшчэ на XXIX з'ездзе, калі камсамол адмовіўся ад статуса грамадска - палітычнай арганізацыі. Больш года мы праіснавалі як грамадская арганізацыя. Без усялякай палітыкі, наколькі гэта было магчыма. Іншая справа, што жыццё падштурхоўвае, і мы, хочам мы таго або не, павінны вывучаць палітычныя пытанні, магчыма, нават уплываць калі-нікалі на іх, бо нават сацыяльная палітыка — гэта таксама палітыка.

**— Але давай адкінем пакуль палітыку наогул. Чым жа канкрэтна будзе займацца Саюз моладзі Беларусі?**

— На маёй памяці за апошнія гады не адбылося ніводнага пленума, на якім бы не прысутнічаў хто-небудзь з кіруючых партыйных работнікаў і не казаў: вось, камсамол ударыўся ў камерцыю, камсамол не займаецца камуністычным выхаваннем... Так было яшчэ зусім нядаўна. Што адказаць на гэта? Не займаемся і займацца не збіраемся. Мы павінны рабіць іншае — абараняць рэальна існуючыя сацыяльна значныя праблемы. Гэта фактычна ляжыць у аснове нашага статута і нашых сённяшніх праграм. Даволі часта гучалі ў наш адрас і такія папрокі: маўляў, нават год назад вы не здолелі адмовіцца ад партыйнага кіраўніцтва над сабой, захаваўшы слова «камуністычны» ў назве арганізацыі. Мы даўно ўжо не прызнаём ніякага кіраўніцтва, а адкінуць тады гэтае слова было проста немагчыма. Ёсць гарачыя галовы, якія патрабуюць: закрэсліць, забыць усё. Але як я магу адмаўляць тое, што рабілася, дапусцім, у 30-я гады? Я не прымаў у гэтым удзелу, я нарадзіўся ў 64-м. І не магу адказваць за першага сакратара ЦК ВЛКСМ Сямічаснага, які назваў Пастэрнака свіннёй. Таму давайце размяжоўваць, давайце памятаць: калі мы гаворым аб гістарычнай адказнасці, то, як правіла, б'ём тых людзей, якія па сутнасці ні ў чым не вінаватыя. Не ўсё было добра, і не ўсё было дрэнна. Гэта мая асабістая пазіцыя...

Рэальная абарона інтарэсаў моладзі. Мы спыніліся на гэтым. Якія ж гэта інтарэсы? Працаўладкаванне. У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам пры скарачэнні звальняюць у першую чаргу каго? Таго, хто прыйшоў на работу апошнім, — як правіла, маладога спецыяліста. І калі на рэспубліканскай сесіі парламента хтосьці з дэпутатаў устаў і сказаў, што мы ценевікі, што мы адмываем грошы, то як не паднімецца тут абурэнне ў народа? Але ж пра якія грошы ідзе гаворка? Узносы мы адмываем? Ад каго? Калі ж заходзіць гаворка аб прадпрымальніцкай дзейнасці камсамола, то гэта ставіцца чуць не ў віну. Ды дзякуй трэба сказаць камсамолу, што ён першы заняўся стварэннем малых прадпрыемстваў, акцыянерных таварыстваў і іншага. У гэтым напрамку мы будзем працягваць рухацца і далей. Зразумела ж, што забяспечыць работай на малым прадпрыемстве ўсіх маладых людзей немагчыма. Значыць, неабходна ствараць спецыялізаваную службу занятасці моладзі. Сёння, нарэшце, такая служба рэгіструецца — яна ствараецца на базе штабоў студэнцкіх атрадаў. Сузаснавальнікамі, дзякуй Богу, згадзіліся-такі стаць Дзяржкампрацы і Міністэрства народнай адукацыі, хоць цягнулі да канца. Між тым, наша служба магла б ужо працаваць месяцы тры.

Далей. Стварэнне сістэмы фондаў сацыяльнай абароны моладзі. Я вельмі паважаю нашу «маладзёжную» камісію ў Вярхоўным Савеце, але той факт, што яна не палічыла патрэбным усур'ёз заняцца Законам аб асновах дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі (ён не прыняты ў другім чытанні), што яна не ўзняла пытання аб выбранні міністра па справах моладзі, — гэта грэх. Мы са свайго боку для гэтага зрабілі ўсё магчымае. Вось зараз самі ствараем фонд — фінансавую крыніцу, з якой маладзёжныя арганізацыі, аб'яднанні, якія толькі становяцца на ногі, маглі б чэрпаць дапамогу, браць крэдыты. Такія фонды па ініцыятыве камсамола ўжо створаны на 80 працэнтах прадпрыемстваў.

МЖК — таксама наша праблема, не варта паглыбляцца ў яе — тут усё вядома. Гэты рух мы будзем падтрымліваць, наколькі магчыма.

І апошні напрамак, які хацелася б выдзеліць. Адпачынак. Нас «білі» за гэта даўно. На адной з сесій, напрыклад, дэпутат Герасюк заявіў: «Яны ж адну парнаграфію круцяць...» Якую парнаграфію? Вазьміце любую газету, якая друкуе рэпертуар дзяржаўных кінатэатраў, і паглядзіце, колькі фільмаў там пазначаны дзвюма зорачкамі. Дык хто разбэшчвае моладзь? Мы, напрыклад, збіраемся на базе сваёй залы адкрыць спецыялізаванае месца для прэзентацый работ маладых кінематаграфістаў. Хто ім яшчэ прадаставіць такую магчымасць? Вялікі грэх на сумленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Часопіс «Маладосць» мае двух заснавальнікаў, а ўтрымлівае яго жабрацкі, усімі кляты камсамол. Тое ж самае і з многімі іншымі выданнямі.

**— Будзем лічыць, што з задачамі Саюза разабраліся. А як я магу стаць яго членам?**

— Членства ў СМБ фіксаванае. Без гэтага арганізацыя ператвараецца ў рух. Мы будзем мець дзве катэгорыі членаў. Адна — індывідуальная: я пішу заяву і мяне прымаюць. А можна зрабіць і інакш. Мы з вамі, напрыклад, з'яўляемся членамі нейкай арганізацыі, якая мае свой статут, сваю назву, але няма ў яе ўласнай базы, фінансаў. У такім выпадку, калі мы не маем нічога супраць прынцыпаў і перакананняў СМБ, кіруючыя органы нашай арганізацыі прымаюць рашэнне аб уступленні ў Саюз на правах калектыўнага члена, заключаецца дагавор паміж двума бакамі. Каб не быць галаслоўным, скажу, што тая ж арганізацыя МЖК мае намер зрабіць такі крок, савет маладых вучоных Беларусі таксама...

**— Стала вядома, што на з'ездзе выявіліся сур'ёзныя рознагалоссі паміж прыхільнікамі Ленінскага камуністычнага саюза моладзі і так званымі «самбістамі» (ад абрэвіятуры СМБ). Якія тут праблемы і як яны будуць вырашацца?**

— Вельмі проста. Мы ніяк не абмяжоўваем перакананні членаў сваёй арганізацыі. Прыхільнікі ЛКСМБ выступаюць за адраджэнне камсамола, не маючы нічога супраць СМБ.

**— А як са сродкамі? На што будзе жыць СМБ?**

— Існуе ж незабароненая законам гаспадарчая дзейнасць, акрамя ўсяго іншага. Я тут хачу сказаць вось што: напярэдадні адкрыцця з'езда ў перадачы «Крок» было заяўлена наступнае: колькі часу існуе камсамол, столькі ж існавала і дзяржаўная датацыя на яго. Дазвольце пераканаць вас, што ў пасляваенны перыяд ніводнай дзяржаўнай капейкі камсамол не атрымаў. Ва ўсіх цывілізаваных краінах, якія даўно ўжо жывуць па законах рынку, маладзёжныя арганізацыі карыстаюцца льготамі на гаспадарчую дзейнасць.

**— Цікава было б бліжэй пазнаёміцца з новым лідэрам беларускай моладзі.**

— Мне 27 гадоў. Нарадзіўся і ўсё жыццё пражыў у Гродне. Маці — майстар цэха на тытунёвай фабрыцы. Пасля школы вучыўся ў Гродзенскім універсітэце, скончыў яго, атрымаўшы дыплом з адзнакай. Пяць гадоў выкладаў рускую літаратуру ў СШ № 20 Гродна. У лютым гэтага года выбраны сакратаром ЦК ЛКСМБ, аднак два разы на тыдзень працягваў ездзіць у школу і выкладаць любімы прадмет, за што атрымаў, відаць, апошні ў гісторыі ВЛКСМ «Знак Гайдара» з надпісам: «За вернасць вучням». Можна сказаць і гэта: камуніст. Але мае камуністычныя ідэалы ніяк не паўплываюць на маю работу. Партрэт Леніна вісіць у кабінеце па-ранейшаму. Працягваю пісаць дысертацыю па раману «Яўгеній Анегін» — з'яўляюся саіскальнікам на кафедры рускай літаратуры Санкт-Пецярбургскага універсітэта.

**Гутарыў**
**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

